

*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ*


# Наша слова

Газета выходзіць з сакавіка 1990 года .№ 17 (604) 14 ТРАЎНЯ 2003 г.





## Адстойвай свой гонар, беларус!

З першага студзеня гэтага года ўпершыню ў нашай краіне распачалося стварэнне базы дадзеных індывідуальных асабовых рахункаў персаніфікаванага ўліку. Цяпер адбываецца выдача грамадзянам пасведчанняў індывідуальнага ўліку. Як і трэба было чакаць, сярод працоўных ёсць нямала тых, хто хоча мець пасведчанне, запоўненае па-беларуску. Таварыства беларускай мовы прадбачыла такую сітуацыю і задоўга да гэтага новаўвядзення звярталася ў Фонд сацыяльнай абароны насельніцтва Міністэрства працы з прапановай вырабляць пасведчанні сацыяльнага страхавання з выкарыстаннем не толькі рускай, але і дзяржаўнай беларускай мовы. Пры гэтым мы зыходзілі з вынікаў апошняга перапісу насельніцтва, паводле якога 73,6 % грамадзян лічаць сваёй роднай беларускую мову.

На сваю прапанову мы атрымалі афіцыйны адказ № 04-10/845 ад 26. 06. 2002 г. Копію ліста прапануем чытачам "Нашага слова".

*Старшыні грамадскага аб'яднання*
*"Таварыства беларускай мовы*
*імя францішка Скарыны"*
*спадару Трусаву А.А.*

*Паважаны Алег Анатольевіч!*

*Па даручэнні Міністэрства працы і сацыяльнай абароны Ваш зварот з нагоды афармлення пасведчанняў сацыяльнага страхавання на беларускай мове ўважліва разгледжаны Фондам сацыяльнай абароны насельніцтва.*

*Для вядзення базы дадзеных індывідуальных асабовых рахункаў персаніфікаванага ўліку выбрана сістэма ўпраўлення базамі дадзеных Oracle 8, якая распрацавана фірмай Oracle Corporation. Яна найбольш поўна адпавядае ўсім патрабаванням, якія ставяцца да такога ўзроўню баз дадзеных. Oracle 8 можа падтрымлівацца толькі англійскай або рускай мовамі.*

*Акрамя таго, для апрацоўкі рукапісных дакументаў персаніфікаванага ўліку выкарыстоўваецца тэхналогія, якая распрацавана ў Расіі і дзейнічае ў аддзяленні Пенсійнага фонда Расійскай Федэрацыі па г. Маскве. У Беларусі такая тэхналогія прымяняецца ўпершыню.*

*Усё гэта выклікала неабходнасць запаўнення дакументаў персаніфікаванага ўліку на рускай мове.*

*Першапачаткова база дадзеных будзе выдаваць інфармацыю для вырабу пасведчання сацыяльнага страхавання таксама на рускай мове.*

*Але па жаданні працоўных, якія маюць пашпарт грамадзяніна Рэспублікі Беларусь, пасведчанне на рускай мове можа быць заменена пасведчаннем на беларускай мове. Для гэтага патрэбна будзе звярнуцца ў аддзел Фонду сацыяльнай абароны насельніцтва Міністэрства працы і сацыяльная абаноны Рэспублікі Бюеларусь, дзе зарэгістравана прадпрыемства, на якім працуе грамадзянін.*

*З павагай*
*Кіраўнік Фонду – Л.Ц. Бачыла*

Гэты ліст за подпісам кіраўніка Фонда сп. Л. Бачылы вы можаце скарыстаць у выпадку, калі сустрэнецеся з цяжкасцямі пры замене пасведчання, выдадзенага на рускай мове, на пасведчанне ў беларускай мове.

*Наш кар.*

Сябар ТБМ А. С. Драздовіч звярнулася ў адрас Менскага гарвыканкаму з лістом адносна моўнага рэжыму менскіх аўтавакзалаў. З УП "Упраўленне транспарту і сувязі" ў адрас Старшыні ТБМ і сп. Драздовіч А. С. паступіў ліст наступнага зместу:

*Старшыні грамадскага аб'яднання*
*"Таварыства беларускай мовы*
*імя Францішка Скарыны"*
*Трусаву А. А.*
*220005, г. Мінск*
*вул. Румянцава, 13*
*Драздовіч А. С.*
*220089, г. Мінск*
*вул. Бірузова, д.5, кв.1*

*Паважаная Драздовіч А. С.!*

*Ваша скарга разгледзена УП "Упраўленне транспарту і сувязі Мінгарвыканкаму " сумесна з кіраўніцтвам "Мінскі аўтавакзал"*

*Артыкул 13. Закона Рэспублікі Беларусь "Аб мовах у Рэспубліцы Беларусь" гаворыць: "На транспарце, у гандлі, у сферы медыцынскага і бытавога абслугоўвання ўжываецца беларуская або руская мова, а пры неабходнасці – іншыя мовы". У адпаведнасці з гэтым артыкулам і афармлена асноўная інфармацыя (расклад руху, платформавыя ўказальнікі) на аўтавакзалах і аўтастанцыях горада Мінска.*

*Але, улічваючы пажаданні мінчан, філіялам "Мінскі аўтавакзал" вядуцца работы па замене асноўнай інфармацыі на рускай мове на іфармацыю на беларускай мове. Так на аўтавакзале "Усходні" гэтыя работы ўжо завершаны, зараз вядуцца на аўтавакзале "Маскоўскі" і аўтастанцыі "Аўтазаводская", затым на чарзе аўтавакзал "Цэнтральны".*

*Пасля заканчэння гэтых работаў будзе абноўлены расклад на аўтастанцыі "Паўднёва-Заходняя".*

*Начальнік упраўлення – В.Г. Сасноўскі.*

## Выданне ТБМ

9 сакавіка знакамітаму беларускаму драматургу Францішку Аляхновічу споўнілася 120 гадоў. З гэтай нагоды Таварыства беларускай мовы выпусціла памятны каляндарык. Каляндарык выкананы паводле малюнка А. Медзьблоцкага. Дызайн Ігара Марачкіна.




## Янку Маўру - 120



10 траўня споўнілася 120 гадоў аднаму з пачынальнікаў беларускай дзіцячай літаратуры **Янку Маўру** (сапр. Фёдараў Іван Міхайлавіч). Нарадзіўся ў Ліепаі (Латвія). Вучыўся ў Панявежскай настаўніцкай семінарыі, адкуль выключаны за вальнадумства. Удзельнічаў у нелегальным настаўніцкім з'ездзе ў Мікалаеўшчыне. Пісаў у асноўным прыгодніцкую прозу.

## Францу Сіўко – 50

**Паважаны спадар Сіўко!**

Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны ад шчырага сэрца віншуе Вас, пісьменніка і грамадскага дзеяча, кіраўніка Віцебскай філіі беларускіх літаратараў з "залатым" юбілеем.

Мы ганарымся, што ў складзе Рады Віцебскай абласной арганізацыі Вы – адзін з найактыўнейшых яе сяброў.

Пройдзена палова шляху, палова веку. Наперадзе – рэалізацыя таго жыццёвага і творчага набытку, што назапашаны за гэты перыяд.

Жадаем Вам натхнення, аптымізму, добрага здароўя, шчасця ў асабістым жыцці і поспехаў у грамадскіх справах.

**Старшыня ТБМ – Алег Трусаў.**

## Новае беларускае выданне

У красавіку гэтага года, якраз напярэдадні Міжнароднага дня помнікаў і мясцін, які адзначаецца ў большасці краінаў свету 18 красавіка, пабачыў свет першы нумар "Краязнаўчай газеты". Заснавальнікамі выдання выступілі ГА "Беларускі фонд культуры", Вытворчае прыватнае унітарнае прадпрыемства "Светач" і спадар У. А. Гілеп, ён жа галоўны рэдактар газеты і кіраўнік Беларускага фонду культуры. Яго першым памочнікам стаў беларускі пісьменнік Генрых Далідовіч, а ў склад рэдкалегіі ўвайшлі вядомыя беларускія гісторыкі, краязнаўцы і архівісты Сярод іх Анатоль Грыцкевіч, Адам Мальдзіс, Вячаслаў Рагойша і Віталь Скалабан.

Галоўная мэта заснавальнікаў выдання - гэта падтрымка мясцовых і рэгіянальных краязнаўцаў, гуртаванне іх вакол газеты ў магутны краязнаўчы рух, накіраваны на захаванне нашай спадчыны.

На васьмі старонках газеты выступілі сябры рэдкалегіі, расказалі крыху пра сябе, пра сваю краязнаўчую і навуковую дзейнасць, выказалі сваё бачанне канцэпцыі новай газеты.

Да 925-годдзя Лагойска надрукаваны лірычны маналог "Лагойшчына" знакамітага беларускага паэта Ніла Гілевіча. Змешчаны таксама цікавыя матэрыялы пра дзейнасць Нацыянальнай камісіі па справах ЮНЕСКА Рэспублікі Беларусь і Беларускага

*... і дзякуй скажа родны край. Янка Купала*
КРАЯЗНАЎЧАЯ газета
№1 Красавік 2003 года

камітэта Міжнароднай Рады па помніках і памятных мясцінах (ІКАМОС). Наклад газеты 2500 асобнікаў, што для пачатку вельмі някепска.

Застаецца толькі пажадаць газеце цікавых аўтараў і змястоўных публікацый на карысць нашай Беларусі.

*Старшыня ГА*
*"ТБМ імяФ.Скарыны"*
*Алег Трусаў*

*Алесь ЛОЗКА,*
*прэзідэнт Рэспубліканскага грамадскага аб'яднання*
*"Таварыства беларускай школы"*

# ДЛЯ ЎЗАЕМАВЫГАДНАЙ ІНТЭГРАЦЫІ НЕ ПАТРАБУЕЦЦА ЗНІШЧЭННЕ МОВЫ НАРОДА

***(Роздум аб лёсе беларускай школы і народа з лічбамі і фактамі)***

Новы навучальны 2002-2003 год адзначыўся прыняццем доўгаабяцанай Праграмы дадатковых мер па пашырэнні сферы выкарыстання беларускай мовы (пастанова № 48 ад 27.08.02), якая была падпісана яшчэ адыходзячым у адстаўку міністрам В. Стражавым. Так, магчыма, гэты дакумент і застаўся б не заўважаным тымі, каму ён прызначаўся, калі б не маленькі апарат ТБМ Алега Трусава, што ўзяў на сябе, па-сутнасці, частку функцый міністэрства і інфармаваў абласныя і раённыя структуры адукацыі пра Праграму, прымусіўшы такім чынам іх стварыць свае планы па новым нацыянальным адраджэнні, з копіямі якіх можна пазнаёміцца ў сядзібе згаданага Таварыства. Як і трэба было чакаць, вышэйшае начальства вырашыла пажартаваць над педагогамі, прыняўшы дакумент дзеля "галачкі". Напрыклад, педагогі многіх раёнаў Беларусі запланавалі адкрыццё эксперыментальных пляцовак "Этнасад" (пункт II-5), якія давалі магчымасці пошукаў мадэлі сапраўды нацыянальнай дашкольнай установы. Сваім уладарным міністэрскім загадам і з вялікай неахвотаю пад націскам бацькоў на новы навучальны год быў дадзены дазвол на адкрыццё толькі адной пляцоўкі на базе дзіцячага саду № 314 г. Менска, акрамя двух існых.



Велізарныя магчымасці адкрываліся для працы Міністэрства дзеля Бацькаўшчыны. У абноўленым Законе "Аб адукацыі ў Рэспубліцы Беларусь" (31.01.02) запісана: "Дзяржава гарантуе грамадзянам права выбару мовы навучання і выхавання і стварае адпаведныя ўмовы для рэалізацыі гэтага права. Навучанню на беларускай мове, выданню літаратуры, падручнікаў і вучэбных дапаможнікаў на беларускай мове аказваецца дзяржаўная падтрымка". Гэта вялікая заваёва! "Другой асноўнай мове навучання" падобнага не гарантавана ў дакуменце, хаця ўсё адбываецца наадварот. З'явілася законная падстава стварэння ў ВНУ "беларускамоўных і рускамоўных груп (плыняў)" – арт. 32. Але і тут нічога на справе не зроблена.

Міжнародная супольнасць не аднойчы рабіла крокі па вяртанні Беларусі ў цывілізаваныя рамкі існавання. Такой чарговай спробай з'явіўся і Міжнародны сімпозіюм "Разнастайнасць моў і культур у кантэксце глабалізацыі", што быў праведзены 9-10 ліпеня ў Менску пры падтрымцы нацыянальнай камісіі па справах ЮНЕСКА, шэрагу міністэрстваў, экспертнага савета пры старшыні Савета Рэспублікі. Даволі прадстаўнічым быў і склад замежных удзельнікаў: Каіціра Мацуура (Японія) – генеральны дырэктар ЮНЕСКА, навукоўцы і грамадскія дзеячы з краін Еўропы (Швецыя, Нарвегія, Германія Францыя і інш.), прадстаўнікі дыпламатычных місій. Цікава было паслухаць пра становучы досвед і поспехі ў развіцці нацыянальных культур і моў у розных краінах і са шкадаваннем – інфармацыю замежных навукоўцаў, грамадскіх дзеячаў пра іхняе заклапочана-ўстрывожанае ўспрыняцце беларускай рэальнасці.

Нездавальняльным было прадстаўніцтва беларускіх уладных структур на важным форуме. Напрыклад, на папярэдніх круглых сталах міністэрства прадстаўлялі начальнікі ўпраўленняў агульнай сярэдняй і вышэйшай адукацыі, якія выявілі свае хваравітыя адносіны да канструктыўныйх і адсутнасць добрых намераў у выпраўленні катастрафічнага становішча ў нацыянальнай асвеце.

Як стала вядома, прыняццем бюджэту на 2003 год міністр адукацыі застаўся задаволены, хаця мне ў гэта не верыцца. Так каментуе падзею намеснік старшыні Пастаяннай камсіі па адукацыі, культуры, навуцы і навукова-тэхнічнаму прагрэсу Палаты прадстаўнікоў Уладзімір Здановіч у "Настаўніцкай газеце"(11.02.03). Што ні сказ, то хвалебная ода "бюджэтна-фінансавай палітыкі... на павышэнне дабрабыту насельніцтва, фінансаванне сістэмы аховы здароўя, адукацыі і мерапрыемствы па ліквідацыі чарнобыльскіх наступстваў... Таму нават пры запланаванай інфляцыі ў 20 працэнтаў фінансаванне лічу дастатковым... пасля абмеркавання пытанняў і дэпутаты камісіі, і міністр адукацыі Пётр Брыгадзін былі задаволены вынікам... У цэлым жа сёлета для сістэмы адукацыі будзе выдзелена ў 1,5 раза больш грошай... Даволі вялікія грошы нам ідуць проста па волі дзяржавы" і г. д. Ну як можна быць задаволеным начальнікам, калі падначаленыя крычаць пра аваротнае нават у той жа газеце: "На камандзіроўкі рэкамендавана "скідвацца"; "скарачэнне льгот"; "нявыплаты ў тэрміновы час настаўнікам грошай працягваюцца ў розных рэгіёнах нашай рэспублікі"; "а на метадычную літаратуру сродкі не выплачваюцца з лістапада" і г. д. Цяжкае матэрыяльнае становішча адукацыйных устаноў, не хапае грошай на самае элементарнае, павялічваюцца запазычанасці міністэрства выдавецтвам за дапаможнікі і падручнікі... Чаму ў нас дзяржаве не сорамна за жабрацкія стаўкі і пенсіі настаўнікаў, якія не дасягаюць 100 у. а.? Чаму не задаволены міністры зарплатай сваіх падначаленых у краінах Балтыі, Польшчы, Германіі, дзе яна складае ў 5-25... разоў больш? Можа таму, напрыклад, што ў той жа заможнай Германіі ўсяго толькі 12 міністраў, якія служаць для народа, а не для ўлады? Наш жа бюджэт можа ўтрымліваць яшчэ больш адміністратараў над да таго вялікім спісам міністраў. Заходзіш у краму ў ніяк не верыцца ў магутны фінансавы прарыў нашай галіны. Цэны ж растуць хутчэй, напрыклад, за карыстанне жылымі памяшканнямі за мінулы год яны падняліся на 470 адсоткаў...

Несуцяшальная статыстыка аб стане навучання на роднай мове ў агульнаадукацыйных школах, але на пачатку, прытрымліваючыся педагагічнага прынцыпу, знойдзем у ёй станоўчае. Так, упершыню ў гісторыі Беларусі з'явіліся факты часовага росту роднамоўных гарадскіх адзінаццацігодак. Іх – 51, а разам з рэспубліканскімі сярэднімі ўстановамі – 53. У сталіцы Беларусі – 7 агульнаадукацыйных школ (было 4, далей у дужках будзем падаваць вынікі мінулых гадоў). Хаця за кошт рэарганізацыі двухмоўных устаноў рускамоўныя растуць хутчэй. У Менску іх стала на 10 больш і на 11 менш – з двюма мовамі навучання.

Нагадаем, што першы беларускамоўны клас у сталіцы адкрыўся ў 1982 годзе ў СШ № 108 і да 1994/95 навучальнага года тут ужо 130 з 218 школ гарвыканкамам быў нададзены статус беларускіх. Скаргаў ад бацькоў амаль не паступала, бо ўсё-такі жыло адчуванне, што Беларусь абрала шлях на стварэнне суверэннай дзяржавы.

Настала пара, калі беларускамоўныя ўстановы пачалі рабіць свае самыя вялікія выпускі. Зразумела, што гэты поспех больш належыць мінуламу перыяду ўсталявання дзяржаўнасці беларускай мовы. З адзінаццацігодкай сёлета развітваецца 24688 (23276) беларусаў і беларусачак, гэта 28,2 (27,1) % ад агульнай колькасці. Такога яшчэ не было і не хутка зноў паўторыцца. У базавай школе самы вялікі выпуск быў у 2001 г. – 36 %, мінулагодні – 34,6 %, сёлетні будзе складаць ужо 32,2 % ад агульнай колькасці выпускнікоў 9-ых класаў. Ці падрыхтаваны ВНУ, сярэднія спецыяльныя і іншыя адукацыйныя ўстановы да прыёму самага вялікага беларускамоўнага кантынгенту – амаль 74 тысячы выпускнікоў школ?! Такое пытанне мы задаём штогод, а рост адпаведных плыняў у адукацыйных установах не наглядаецца. Хто ў гэтым вінаваты?

**Усяго ў Беларусі 4335 дзённых школ, у якіх 1385174 (у мінулым навучальным годзе было 1440984) вучні. З іх вучацца:**

| Навуч. год | Па-белар. | % | Па-руску | % | Па-польску | Па-літоўску |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 1999-2000 | 463371 | 30 | 1081798 | 70 | 874 | 76 |
| 2000-2001 | 453012 | 29 | 1062424 | 70,9 | 903 | 78 |
| 2001-2002 | 400869 | 27,8 | 1039174 | 72,1 | 870 | 71 |
| 2002-2003 | 364250 | 26,3 | 1020041 | 73,6 | 804 | 75 |

Акрамя таго, у 170 (176) дзённых школах 8627 (9406) вучняў вывучаюць родную мову нацыянальных меншасцяў, у тым ліку 8119 (8774) вучняў – польскую, 368 (441) – яўрэйскую, 73 (119) – украінскую, 67 (72) – літоўскую.

Зразумела, што за кошт маламкіх пачатковых і базавых школ у вёсках атрымліваецца трохі большы адсотак адукацыйных устаноў з беларускай мовай навучання, але і ён год ад году памяншаецца. Цяпер – катастрафічна.

**Школы з адпаведнай мовай навучання (усяго – 4335, было 4506)**

| | Беларуск. | % | Рускамоўн. | % | Бел.-руск. | % | Польск. | Літоўск. |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1999-2000 | 2847 | 61,7 | 1147 | 24,8 | 620 | 13,4 | 1 | 1 |
| 2000-2001 | 2822 | 61.9 | 1201 | 26,3 | 533 | 11,7 | 2 | 1 |
| 2001-2002 | 2773 | 61,5 | 1266 | 28,1 | 464 | 10,3 | 2 | 1 |
| 2002-2003 | 2621 | 60,5 | 1294 | 29,9 | 417 | 9.6 | 2 | 1 |

Не толькі не спынена ганебнае знішчэнне беларускамоўных школ і перавод двухмоўных у рускія, але гэтая прыкрая тэндэнцыя яшчэ і павялічана. У таталітарныя гады савецкага перыяду вясковыя ўстановы заўсёды вялі працу на мове карэннага насельніцтва. А тут такая пачалася эпідэмія. Прыгадаем, што ў сумнавядомы 1995 год было пераведзена 108 школ на рускую мову навучання і, у тым ліку, 91 у вёсцы. Але каб адразу 152 школы з беларускай мовай навучання скончылі сваё існаванне, такога гісторыя яшчэ не ведала! А ўсяго зачынена 184 школы. Гэта вынікае з афіцыйных дакументаў. І тут не трэба прыкрывацца апраўданнем у неперспектыўнасці малакамплектных вясковых школ. Такія школкі функцыянавалі ў самыя цяжкія гады вайны, голаду, разрухі. Ва ўсякім выпадку не было прынята належнага гуманітарнага папярэджання наступстваў гвалту, звязанага са звальненнем педагогаў, нязручнасцяў школьнікам і іх бацькам і мераў пашырэння выкарыстання беларускай мовы. Ці выратуюць сітуацыю набытыя аўтобусы за кошт закрыцця пачатковых і базавых устаноў?

У наступнай табліцы зафіксуем змяненні ў сетцы школ за апошнія тры-чатыры навучальныя гады (апошні год – лічба справа, гэтаксама і далей).

| | З белар. мовай навуч. | З рускай мовай навуч. | З дзвюма мовамі навучан. |
|---|---|---|---|
| г. Менск | 5/змен няма/-1/3 | 17/13/12/10 | -10/-10/-11 |
| Берасцейская | -8/-4/-8/-27 | 19/2/10/3 | -7/-11/-10 |
| Віцебская | 3/-1/-6/-21 | 5/14/10/4 | -17/-9/-7 |
| Гомельская | -9/-5/-9/-17 | 16/4/7/3 | -12/-8/-6 |
| Гарадзенская | -5/4/-13/-40 | 3/4/9/7 | -13/-9/-6 |
| Менская | -7/-14/-4/-29 | 7/12/13/8 | -22/-22/-8 |
| Магілёўская | -6/-5/-8/-21 | 4/5/4/-8 | -6/ змен няма/змен няма |
| Рэспубліканскія | змен няма | 1/змен няма | змен няма/1 |
| Разам | -27/-25/-49/-152=-5,5% | 117/54/65/28=2,2% | -97/-87/-69/-47=-10,1% |

Незразумела, чаму няма ў афіцыйнай статыстыцы адпаведнасці двух табліц (адносна 5,5 %)? Калі ў мінулыя гады мы ў адносна станоўчым плане адзначалі Гарадзенскую вобласць, то цяпер – не, гэты заходні рэгіён згубіў больш за ўсе – аж 40 агульнаадукацыйных устаноў (у мінулым годзе таксама больш усіх – 13). Усяго на Гарадзеншчыне засталося 605 беларускіх школ. Беларускамоўны падрыхтоўчы клас створаны ў Ваўкавыску, а ў Гародні не прыняты нават ніводзін вучань. Цяпер больш поспехаў у заходнім рэгіёне мае польска- і літоўскамоўныя адукацыі. Палякі дапамагаюць будаваць у абласным цэнтры ўжо другую сваю школу. У першай вучыцца 489 школьнікаў, у падрыхтоўчым класе 21 дзіця, першы выпуск – 31 вучань. У Ваўкавыскай падобнай школе 205 вучняў. Наогул, польская мова вывучаецца ў 140 школах вобласці.

*(Заканчэнне ў наступным нумары.)*

# Рэйтынг ТБМ

Увосень мінулага года Міжнародны рэспубліканскі інстытут ЗША ладзіў у Беларусі маштабнае сацыялагічнае апытанне, вынікі якога былі прэзентаваныя напачатку 2003 года. Даследаванне праводзілася ва ўсіх абласцях і сталіцы. У кожным рэгіёне было апытана як мінімум 400 чалавек. З усіх пытанняў, на якія адказвалі рэспандэнты, звяртаем увагу чытачоў на пункт "Стаўленне да гэтай арганізацыі". Прыводзім дадзеныя па першых 10 недзяржаўных арганізацыях, змешчаных у табліцы.

| Назва арганізацыі | Стаўленне да гэтай арганізацыі | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| | Станоўчае % | Хутчэй станоўчае % | Хутчэй адмоўнае % | Адмоўнае % | Не далі адказу % |
| Фонд "Дзецям Чарнобыля" | 38.43 | 23.07 | 2,30 | 3.42 | 30,09 |
| Цэнтар па правах чалавека | 13.23 | 21,68 | 2,90 | 4,01 | 55.11 |
| БАПЖ - Беларуская асацыяцыя | 8.96 | 18.49 | 4.46 | 4,71 | 60,27 |
| **Таварыства беларускай мовы** | **7,95** | **15,84** | **6,00** | **5,76** | **60,87** |
| Аб'яднанне маладых навукоўцаў "ВІТ" | 7.50 | 16.81 | 4,22 | 4.57 | 63,38 |
| "Незалежнае таварыства прававых даследаванняў" | 6.18 | 16.50 | 4,88 | 4,61 | 64,20 |
| Фонд імя Льва Сапегі (агульнанац.) | 6.49 | 12.04 | 5,16 | 5,51 | 67,06 |
| "Прававая ініцыятыва" | 4.95 | 13,.96 | 4,95 | 4,92 | 67,17 |
| Праваабарончы цэнтр "Вясна" | 5.55 | 12,67 | 4,99 | 4,99 | 67,97 |
| "Грамадзянскія ініцыятывы" | 3,77 | 11,84 | 5,38 | 5,34 | 69,83 |

Як бачым, ТБМ займае ў ёй чацвёрты радок.

У другой табліцы арганізацыі расстаўлены ў залежнасці ад колькасці тых, хто паставіўся да яе станоўча. Чым лічба большая, тым вышэйшы радок займае НДА у табліцы. Таварыства беларускай мовы сярод усіх грамадскіх арганізацый на пятым месцы. За намі засталіся і такія шырока вядомыя арганізацыі як Фонд імя Лева Сапегі, Праваабарончы цэнтр "Вясна". Зрэшты, даём Вам магчымасць самім параўнаць станоўчы рэйтынг першай дзесяткі НДА.

| Назва арганізацыі | Станоўчы рэйтынг % | Адмоўны рэйтынг % | Пазнавальнасць | Абсалютны станоўчы рэйтынг % |
|---|---|---|---|---|
| Фонд "Дзецям Чарнобыля" | 61,5 | 5,72 | 69,91 | 55,78 |
| Цэнтар па правах чалавека | 34.91 | 6,91 | 44,89 | 28 |
| БАПЖ - Беларуская асацыяцыя | 27.45 | 9,17 | 39,73 | 18,28 |
| Аб'яднанне маладых навукоўцаў "ВІТ" | 24,31 | 8.79 | 36,62 | 15,52 |
| **Таварыства беларускай мовы** | **23,79** | **11,76** | **39,13** | **12,03** |
| "Незалежнае таварыства прававых даследаванняў" | 22,68 | 9,49 | 35,8 | 13,19 |
| "Прававая ініцыятыва" | 18,91 | 9.87 | 32,83 | 9,04 |
| Фонд імя Льва Сапегі (агульнанац.) | 18,53 | 10.67 | 32.94 | 7,86 |
| Праваабарончы цэнтр "Вясна" | 18,22 | 9,98 | 32,03 | 8,24 |
| "Грамадзянскія ініцыятывы" | 15.61 | 10.72 | 30,17 | 4,89 |

Згадзіцеся, прыемна, што пра нас ведаюць у краіне і даюць нашай працы высокую станоўчую ацэнку. Сведчанне гэтаму - пятае месца сярод усіх НДА. Вялікая заслуга ў гэтым кожнага сябра Таварыства, які хоць нейкім чынам спрычыняецца да дзейнасці нашай масавай грамадскай арганізацыі. Віншуем усіх сяброў і прыхільнікаў ТБМ з высокай ацэнкай працы Таварыства грамадзянамі нашай краіны.

*Наш кар.*

# Паэзія жаночай душы

На днях у абласной бібліятэцы Віцебска адбылася сустрэча з беларускімі паэткамі Вольгай Русілка, Яўгеніяй Мальчэўскай і Аленай Гінько. Чытачам беларускай залы была прадстаўлена, паводле слоў Франца Сіўко, які і распачаў сустрэчу, "прафесійная жаночая паэзія".

У кожнай з паэтак надзвычай цікавы шлях, які робіць адметнай іх творчасць. Пра гэта кажуць вершы, якія багата гучалі ў зале. Але ўсіх паэтак з'яднала адна агульная тэма: лірыка каханя; любоў да людзей і свету чыстай жаноцкай душы. А вершаў было багата.

Вольга Русілка, загадчыца кафедры беларускай літаратуры ВДУ імя П.М. Машэрава, памятае свой першы верш, які яна і прачытала па просьбе слухачоў. Паэтка аддае перавагу вершам ў форме трыялета: "Там ёсць восем нот, таму трыялет можна нават праспяваць, як гаму" – сцвярджае яна і чытае трыялеты. Шмат было прачытана і вершаў інтымнай лірыкаі: ад сур'ёзна-развважлівай да лёгкай і вясёлай.

"Галоўнае ў чалавеку душа, кажа Алена Гінько, а душа паэта ў яго вершах". У яе вершах таксама гучыць лірычная тэма кахання.

Яўгенія Мальчэўская называе свае вершы малітвамі. "У маёй паэзіі, - кажа яна, - ёсць штосьці агрэсіўнае ад безабароннаці". У яе радках гучаць матывы мацярынства, вялікай хрыстовай любові і дабрыні. Пра каханне хоць і напісала шмат, але на сустрэчы не чытала нічога з гэтай тэматыкай.

На прыканцы сустрэчы, паэт – сатырык Міхась Мірановіч (гэта было нечаканым сюрпрызам для паэтак і слухачоў) прачытаў сяброўскія пародыі на выбраныя радкі паэтак, якія выклікалі ва ўсіх усмешку.

Усе ахвотныя мелі магчымасць набыць кнігу Алены Гінько "Самотная птушка" і Міхася Мірановіча з гаваркой назвай "Міранізмы".

*Ганна Навасельцава.*

# "Матчын зрок"

На прадвесні у БДУ культуры адбылася прэзентацыя кнігі Таісы Іосіфаўны Супрановіч "Матчын зрок".

Распачаў імпрэзу ансамбль народных інструментаў БДУ культуры пад кіраўніцтвам Лілеі Казіміраўны Валасюк. Былі выканаы: Сертакі, Лібер-танга, Карамельны аукцыён.

Аўтарка кнігі "Матчын зрок" Таіса Супрановіч скончыла ў цяперашнім БДУ культуры ФБІС. Зараз працуе загадчыцай дзіцячай бібліятэкі г. Навагрудка. Празаічныя творы пачала пісаць у 42 гады.

Таіса Іосіфаўна была вельмі ўдзячная ўсім, хто рыхтаваў урачыстасць. Была вельмі рада, таму, што яна праходзіла менавіта ў сценах яе былога "інстытута".

На прэзентацыі прысутнічала шмат гасцей, якія выступалі з віншаваннямі і пажаданнямі творчых поспехаў, чыталі свае вершы і расказвалі пра тое, якім чынам творы Супрановіч трапілі ў друк. Прысутнічаў на прэзентацыі і Андрэй Федарэнка – беларускі пісьменнік, загадчык аддзела культуры ў часопісе "Полымя", выпускнік ФБІС.

Падзяку і пахвалу выказалі былыя выкладчыкі, сябры Саюза беларускіх пісьменнікаў – Лідзія Савік і Анатоль Майсеенка.

Таксама выступіў і беларускі пісьменнік Генрых Далідовіч, журналіст з "ЛіМа – Міхась Талочка. Сярод прысутных трэба адзначыць пісьменніцу Ніну Загорскую, прадстаўнікоў Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі, Менскай АУНБ, Дзіцячай ЦБС г. Менска.

Выступіла і сама спадарыня Супрановіч з кароткім аповедам пра сябе. Затым яна адказала на пытанні прысутных. Падзякавала ўсім, хто прыйшоў на прэзентацыю.

Прэзентацыя была падрыхтавана кафедрай бібліяграфіі і дакументазнаўства сумесна з бібліятэкай БДУ культуры.

Вядоўцамі праграмы былі дацэнты БДУ культуры В.М. Бігеза і В.І. Саітава

*Ірына Секержыцкая.*

# Песню, якой 100 гадоў, падхапілі ўсе

Нехта з нявызначаных антычных аўтараў заўважыў, што мы любім сваю радзіму не за тое, што яна вялікая, а за тое, што яна свая.

Нікога не здзіўлю, калі скажу, што любоў да вялікай Радзімы пачынаецца з вялікай любові да свайго маленькага куточка, дзе мы нарадзіліся, што любіць радзіму – гэта значыць ведаць пра яе мінулае, заўважаць змены, актыўна ўдзельнічаць у адраджэнні традыцый, аднаўленні спадчыны.

Добра разумеюць гэтыя простыя ісціны выкладчыкі Гарадзенскага дзяржаўнага каледжа мастацтваў, дзе нядаўна адбыліся чарговыя "Краязнаўчыя чытанні".

З уступным словам – прывітаннем выступіла перад прысутнымі выкладчык гісторыі Беларусі, старшыня цыклавой камісіі сацыяльна – гуманітарных дысцыплін Ірына Іванаўна Шалкевіч. Яна адзначыла, што ў сённяшні час кожнаму свядомаму грамадзяніну сваёй краіны проста неабходна адказаць, хаця б для сябе, на пытанне: "Хто мы?"

Цікавы рэферат на тэму "Гісторыя вёскі Мсцібава" падрыхтавала навучэнка другога курса 264 групы аддзялення "фальклорная інструментальная музыка" Марына Мамедава (выкл. Шалкевіч І. І.) Гісторыя Мсцібава, гэтай сёння нічым не прыкметнай вёскі Ваўкавыскага раёна, з якой, дарэчы, прыехала вучыцца ў каледж Марына, аказалася вельмі багатай. Датуецца яна ХУІ стагоддзем, з таго часу, калі князь Эрдзівіл для барацьбы з татарамі адбудаваў Ваўкавыск і Мсцібогаў, якія раней імі былі зруйнаваныя. З зацікаўленасцю слухалі навучэнцы пра былыя часы Мсцібава узнікненне назвы вёскі, пра шматлікія гістарычныя падзеі, сведкамі якіх былі мсцібаўскія мясціны. Свой аповед дакладчыца аздобіла фотаздымкамі.

Не менш цікавае паведамленне зрабіла на "чытаннях" навучэнка першага курса 272 групы аддзялення "дызайн" Святлана Маркевіч. Яна расказала, як кажуць, усю "паднаготную" аб ... лідскім піве.

"Так, Лідскі піўзавод з'яўляецца адным са старэйшых прадпрыемстваў нашай краіны, ужо больш за 130 гадоў ён вырабляе ігрысты асвяжальны напітак з характэрным хмельным пахам і прыемным горкім смакам. Экспартуе звыш 4 мільёнаў дэкалітраў піва 40 сартоў, - паведаміла Святлана. Але піва – гэта яшчэ і букет вітамінаў, невыпадкова гэты прадукт прыскнічае ў рацыёне палярнікаў. У піве – 21 від амінакіслот бялковай групы, фосфар, значная колькасць мінеральных рэчываў. Піва валодае заспакаяльным і снатворным уздзеяннем, а пры прастудзе знаўцы раяць разагрэць яго на вадзяной лазні да 30 градусаў і прымаць, як патагоннае. Акрамя таго, піва - цудоўны касметычны сродак. У 1541 годзе прыдворны лекар герцага Вільгельма Баварскага ў сваім трактаце аб піве рэкамендаваў уціраць піўную пену ў скуру твару і шыі, каб засцерагчы ад зморшчын і палепшыць колер скуры".

Пра гісторыю развіцця піва і Лідскага піўзавода, заснавальнікаў розных гатункаў, таваразабарот і іншае распавядала аўтарка свайго рэферата. І ўсё да таго, што трэба купляць сваё, што наша беларускае – не горшае! "Калі ведаць гісторыю, то і эканоміцы роднай свядома спрыяць можна" – пераконвала дзяўчына.

А вось навучэнцы трэцяга курса 263 групы аддзялення "сацыяльная дзейнасць" пад кіраўніцтвам выкладчыка краязнаўства Алы Рыгораўны Бычэк абралі ў якасці формы свайго ўдзелу ў краязнаўчых чытаннях літаратурна – музычную кампазіцыю і вельмі ўзнёсла і пранікнёна расказалі пра першую беларускую паэтэсу-лірыка Канстанцыю Буйло, якраз да 110-годдзя з дня народзін паэтэсы.

Імя Канстанцыі Буйло ўжо на пачатку нашага стагоддзя стаяла побач з імёнамі Янкі Купалы і Якуба Коласа, Максіма Багдановіча, Цёткі, Змітрака Бядулі. Душа яе была перапоўнена любоўю да роднага краю, да простага сялянскага люду, з глыбінь якога сама выйшла, бяду - гора якога добра ведала. Падзяліўшы з родным народам яго долю, заклікала да волі, да працы, да светлай надзеі.

"У аўтаркі дужа моцная любоў да роднага краю" - адзначылі рэцэнзенты яе першага зборніка "Курганная кветка" яшчэ ў 1914 годзе. Гэтая любоў наймацней выявілася ў славутым вершы паэтэсы "Люблю наш край, старонку гэту", які адразу ж стаў народнай песняй, а цяпер і гімнам беларусаў, якія жывуць за мяжой. Няма такога кутка на беларускай зямлі, дзе б не ведалі і не спявалі гэтага гімна роднай старонцы.

Пад сцішаны гітарны акампанемент падхапілі яго і ўсе прысутныя.

Напрыканцы краязнаўчых чытанняў навучэнцы каледжа пазнаёміліся з чарговым нумарам газеты "Наша слова", а зварот "Давайце кахаць па-беларуску!" быў успрыняты моладзю з асаблівым вясновым энтузіязмам.

***Людміла Кебіч,***
***намеснік дырэктара па выхаваўчай рабоце Гарадзенскага дзяржаўнага каледжа мастацтваў.***

## Алесю Петрашкевічу

Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны смуткуе разам з Вамі, шаноўны Алесь Лявонавіч, і выказвае шчырае спачуванне ўсім, хто ведаў Вашую жонку Аду Мікалаеўну Петрашкевіч - філолага і архівіста - з прычыны ейнай смерці. Пухам ёй родная зямля і добрая памяць нашчадкаў.

